*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 33(470) 23 ЖНІЎНЯ 2000 г.

## Уладзіслаў Завальнюк -- Чалавек года - 2000



Міжнароднае даследчае аддзяленне амерыканскага біяграфічнага інстытута прыняло рашэнне аб прызнанні ксяндза-магістра Чырвонага касцёла імя святых Сымона і Алены Уладзіслава Завальнюка (на здымку) Чалавекам года. Ён удастоены гэтага ганаровага тытула за істотны ўклад у развіццё грамадства.

Уладзіслаў Завальнюк вядомы як прэзідэнт Хрысціянскага таварыства міласэрнасці, у навуковым асяродку яго ведаюць як акадэміка міжнароднай акадэміі экалогіі, навуковага супрацоўніка нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны. Вернікам ён знаёмы як перакладчык на беларускую мову хрысціянскай літаратуры і сябра Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.

**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

**Ксяндзу-магістру, пробашчу касцёла Св. Сымона і Св. Алены Уладзіславу Завальнюку!**

З радасцю сустрэлі навіну, што Вы, дарагі Ойча, прызнаны Міжнародным даследчым аддзяленнем Амерыканскага біяграфічнага інстытута Чалавекам 2000-га года.

Ведаючы Вас, як самаадданага барацьбіта за духоўнае Адраджэнне, развіццё беларускай культуры, роднай мовы, нашай Бацькаўшчыны, сведчым у сваечасовасці гэтага ўганаравання.

Гэта ёсць міжнароднае прызнанне Вашай святой справы і тым самым узвелічэнне Беларусі на міжнароднай арэне. Чым больш у нас такіх славутых сыноў, тым больш вядомая нашая краіна ў свеце.

Шчыра віншуем Вас і зычым далейшых поспехаў на карысць Радзіме.

Бог Вам у помач.

**Сакратарыят ТБМ.**

**ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ ТБМ “НАША СЛОВА”**

ДЛЯ ГЭТАГА ВАМ НЕАБХОДНА НАПІСАЦЬ СВОЙ АДРАС НА БЛАНКУ І АПЛАЦІЦЬ ПАДПІСКУ НА ПОШЦЕ

**“НАША СЛОВА” ВЫХОДЗІЦЬ ШТОТЫДНЯ (Індэкс – 63865)**

Кожны, хто падпішацца на IV квартал 2000 г. і пакажа (альбо дашле на адрас Сядзібы ТБМ: #13, Румянцава, 220005, Менск) падпісны квіток, атрымае ў падарунак добрую кнігу на беларускай мове.

**БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ – КОЖНАЙ СЯМ'І !**

Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз *Чарнобыль*

*220002, Рэспубліка Беларусь, г.Мінск, Крапоткіна, 44*
*Тэл.: (37517) 234-22-41*
*Факс: (37517) 271-58-19, (37517) 210-18-80*

Belarusian Socio-Ecological Union *Chernobyl*

*Krapotkina Str., 44, Minsk, Republic of Belarus, 220002,*
*Phone: (37517) 234-22-41*
*Fax: (37517) 271-58-19, (37517) 210-18-80*

Іcх. № 34/1 20.07.2000г.

**НАМЕСНІКУ КІРАЎНІКА РАБОЧАЙ ГРУПЫ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ ДЫЯЛОГУ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫХ СІЛ, ПАМОЧНІКУ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. А. ПОСАХАВУ**
**Копія: СТАРШЫНІ ГА ТБМ А.А. ТРУСАВУ**

Паважаны Сяргей Аляксеевіч!

Карыстаючыся выпадкам мушу нагадаць, што мы не атрымалі адказу на свой ліст на імя Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта ад 12.05.2000г. № 22/1 наконт вывучэння і падтрымкі ўрадам праекту стабільнай дастаўкі гуманітарных грузаў са Злучаных Штатаў Амерыкі.

Цяпер выкажу сваю падтрымку і павагу ідэі стварэння і адкрыцця ў Беларусі нацыянальнага універсітэта. Скажу шчыра, у мяне выклікае захапленне настойлівасць, з якой ТБМ дамагаецца ад ураду рэалізацыі гэтай ідэі. І дзівіць адсутнасць хоць якой-небудзь станоўчай рэакцыі з боку афіцыйных структур. Апошняе можна вытлумачыць хіба адсутнасцю ў краіне нацыянальнай палітыкі і поўшным ігнараваннем уладамі нацыянальнай культуры, адукацыі і дыскрымінацыяй беларускамоўнага насельніцтва.

Мне не аднойчы даводзілася сустракацца са скаргамі маладых людзей, выпускнікоў беларускамоўных школ і класаў на тое, што ім няма дзе і няма як працягваць вучобу на роднай мове. больш за тое, нямала выпадкаў, калі рускамоўныя выкладчыкі ВНУ стаяцца варожа, са здзекам да такіх абітурыентаў.

І гэта не што іншае, як глум і здзек над беларускай мовай і дзецьмі, палюбіўшымі родную мову.

Ураду, на мой погляд, варта было б у тэрміновым парадку вырашыць пытанне з адкрыццём Беларускага нацыянальнага універсітэта і ўтварэннем іншых нацыянальных навучальных устаноў. Аднак, як паведамілі мне ў сакратарыяце ТБМ, Вы прапануеце абмеркаваць “праблему” (бачыце, гэта ў нас праблема!) ў межах дыялогу грамадска-палітычных сіл Беларусі.

Што ж, давайце абмяркуем! Цікава будзе паслухаць чым, якімі аргументамі будуць крыць, адмаўляючы ў вострай неабходнасці падобных навучальных устаноў на Беларусі. супрацiўнікі беларускай ідэі. І ці многа іх будзе?

То лічыце, што БелСаЭС “Чарнобыль” афіцыйна падтрымлівае Вашу прапанову абмеркаваць у рамках дыялогу наспелую праблему стварэння ў Беларусі нацыянальнага універсітэта і іншых навучальных устаноў гэтага плану і выпрацаваць канкрэтныя тэзы, прапановы, праекты рашэнняў для ўраду.

Спадзяюся. большасць грамадскіх аб'яднанняў – удзельнікаў дыялогу таксама прыхільна паставяцца да гэтай задумы.

***З павагай. Васіль Якавенка, пісьменнік, прэзідэнт БелСаЭС “Чарнобыль”.***

## Шаноўнае спадарства

На мінулым тыдні ў аддзяленнях сувязі з' явіўсятакі каталог падпіскі на IV квартал 2000 года. На гэты раз мы знаходзімся ў асноўным каталогу на старонцы 9, адразу пасля “Нашай Нівы”. Як мы і папярэджвалі, цана на газету ізноў вырасла і складае цяпер 171 рубель на месяц, але даводзім да вашага ведама, што мы ні на капейку не падымалі цану на газету, а той рост, які з'явіўся, выкліканы ростам цаны на паслугі пошты на 40%.

Гэты рост змушае ўжо нас падымаць розьнічную цану, якая з кастрычніка складзе хутчэй за ўсё 45 рублёў за нумар, а, магчыма і больш.

Таму мы настойліва рэкамендуем нашым сталым чытачам, сябрам ТБМ, асабліва кіраўнікам арганізацый ТБМ актывізаваць падпіску. Асаблівую ўвагу просім звярнуць на студэнцкія калектывы, на першыя курсы, дзе неабходна разам з арганізацыяй падпіскі арганізаваць стварэнне суполак ТБМ.

Будзьце з намі.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 513 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)





# Рудольфу Абіхту – выдатнаму нямецкаму беларусісту – 150 гадоў

Гісторыя еўрапейскага славяназнаўства мае вялікія традыцыі. Аднак беларуская тэматыка не заўсёды знаходзіла ў ёй належнай увагі. Адзін з першых, хто звярнуў погляд гісторыкаў і філолагаў Еўропы на беларускую праблематыку, зацікавіў іх, быў піянерам у яе распрацоўцы – гэта выдатны нямецкі філолаг-славіст, арыенталіст Рудольф Абіхт.

Вядома, што нарадзіўся маленькі Рудольф 9 жніўня 1850 г. у Намыслове (Германія). Бацька – евангельскі пастар, вандраваў па Шлёнску (паўднёва-усходняя частка тагачаснай Германіі). Зрэшты перасяліўся да парафіі ў Шыманкове (Шлёнск). Вядома, што ў тых мясцінах размаўлялі, як па-нямецку, так і па-польску. Без сумнення сын правінцыйнага святара сутыкаўся з польскай мовай, і, магчыма, нават ёю карыстаўся.

Першапачатковую адукацыю Рудольф атрымаў дома, у Шыманкове, у сярэдняй школе вучыўся спачатку ў Браславе, потым у Познані, дзе у гімназіі Фрыдрыха Вільгельма ён атрымаў пасведчанне сталасці. У 1869 годзе Рудольф пачынае тэалагічную вучобу ў Берлінскім універсітэце. Наведваў лекцыі не толькі па сваёй спецыяльнасці, але таксама па філасофіі, класічнай філалогіі, арабістыцы (арыенталістыцы). Але нечакана вяртаецца на Шлёнск. Ужо ў 1870-м годзе сустракаем яго імя ў спісе студэнтаў-тэолагаў Браслаўскага універсітэта, дзе ён працягвае далей цікавіцца арыенталістыкай. Больш таго, у сферу яго інтарэсаў увайшла славістыка. Наведвае лекцыі Уладыслава Негрынга, заняткі па польскай і рускай мовах Вінцэнта Краіньскага.

Франка-пруская вайна 1870-71 г. г. перарвала вучобу Абіхта. Добраахвотнікам ён прыняў удзел у французскай кампаніі. Пасля вайны вяртаецца да вучобы як студэнт-тэолаг універсітэта ў Галле, дзе працягвае цікавіцца арабскай мовай і літаратурай. Але зноў перапынак у вучобе. На гэты раз па фінансавых прычынах. Пасля здачы адпаведных экзаменаў становіцца пастарам у родным Намыслове (1879), потым у Карлавіцах пад Бжэгам (1882) (Усходняя Германія). Знямальная рэч-- казанні чытае на двух мовах: нямецкай і польскай. У 1888 годзе перасяляецца ў Браслаў. Тут Абіхт неадкладна скарыстаў магчымасць аднавіць кантакты з універсітэтам, перш за ўсё з арыенталістыкай і славістыкай. Піша доктарскую працу па арыенталістыцы. Перамагае ў конкурсе на месца выкладчыка польскай і расейскай моў у семінарыі універсітэта. Імкнучыся спалучыць свае навуковыя пошукі і захапленні, ён піша артыкулы па гісторыі славян, абапіраючыся на арабскія крыніцы. Уступае ў дыскусію аб генэзісе глагалічнага алфавіту.

З 1896 года Абіхт цалкам прысвяціў сябе славістыцы: займаецца "Словам пра паход Ігаравы", перакладае твор на нямецкую мову белым вершам. Цікавіць Абіхта таксама і сербская тэматыка. Кульмінацыяй яго працы стала доктарская дысертацыя "Die russishe Heldensage", кансультантам і натхняльнікам Абіхта да працы быў вядомы нямецкі славіст Негрынг.

З 1907 года ў жыцці Абіхта пачынаецца перыяд, прысвечаны цалкам беларусістыцы. Абіхт належаў да кола тых еўрапейскіх вучоных, якія прызнавалі асобнасць беларускай мовы і літаратуры, падтрымлівалі сваімі навуковымі працамі новы, малады беларускі рух. На гэтай ніве Абіхт праводзіў дзейнасць больш практычную, дыдактычную і папулярызатарскую, чым навуковую, калі не браць пад увагу агульнаславянскага, а значыць і беларускага характару "Слова пра паход Ігаравы", якім Абіхт займаўся як філолаг-даследчык.

Першыя публікацыі Абіхта па беларусістыцы з'яўляюцца падчас першай сусветнай вайны. Бо яе пачатак значна паўплываў на рост зацікаўленасці нямецкіх гісторыкаў і публіцыстаў беларускай тэматыкай. Беларусь у той час яшчэ трактавалася на Захадзе як перыферыйная частка Расеі, якая адрозніваецца толькі этнічна і дыялектылагічна, у адпаведнасці, дарэчы, з афіцыйнымі пазіцыямі расейскай навукі. Ігнараваўся факт, што дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім была старабеларуская, што культура руска-беларуская была сінонімам літоўскай.



prôsty spôsab stacca ŭ karôtkim čase
hramatnym.

napisali
pr. dr. rudolf abiht u breslavi
i janka stankievič u vilni

drukam wydaŭ dr. feliks pribač

(buchhandlung priebatsch, breslau ring 58).
breslaŭ 1918 h.

*На здымку: першая старонка самавучыцеля па беларускай мове, выдадзенага Абіхтам і Станкевічам у Браслаў 1918 г.*

У канцы 1915 года на частцы тэрыторый занятых немцамі была ўтворана вайскова-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка - зямля Ober Ost, у межах якой знаходзілася частка беларускіх тэрыторый. Хоць немцы ў фармальна-міжнародным сэнсе не прызналі незалежнасць Беларусі, аднак прызналі існаванне асобнай беларускай нацыі. Беларуская мова атрымала роўныя правы з іншымі мовамі на тэрыторыі Ober Ost. У Вільні пачала выдавацца газета "Zeitung der 10 Armee" - друкаваны орган штаба 10-й Арміі, дзе друкавалася многа матэрыялаў прысвечаных беларускай праблематыцы.

Нямецкія ўлады далі дазвол на адкрыццё свецкай настаўніцкай семінарыі на Гарадзеншчыне, сярод выкладчыкаў якой аказаўся і Рудольф Абіхт. Акрамя выкладчыцкай працы ў семінарыі Абіхт займаецца публіцыстыкай: друкуе свае артыкулы ў газеце "Гоман", займаецца гісторыяй беларускай літаратуры ("Калі напісаны "Тарас на Парнасе" – "Гоман", 10-га красавіка, 1917 г.).

Найбольш значнай працай Абіхта стаў лемантар-самавучыцель "Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным", напісаны разам з тады яшчэ маладым, вядомым беларускім дзеячам Янкам Станкевічам.

Абіхт і Станкевіч, задумваючы канцэпцыю падручніка, падкрэслівають асобнасць беларускага народа і яго мовы. Сведчыць пра гэта павінна ўсеагульная пісьменнасць сярод беларусаў. Аўтары лічаць што навука гэта няцяжкая. Трэба толькі адмовіцца ад стэрэатыпу, што беларуская мова не можа функцыяваць самастойна, бо з'яўляецца скажэннем польскай мовы праз рускую, альбо рускай праз польскую. Трэба распрацаваць уласны алфавіт, бо дагэтуль беларусы пазычылі альбо ў рускіх, альбо ў палякаў. На думку Абіхта і Станкевіча неабходна стварыць адзіны беларускі, цалкам асобны алфавіт на лацінскай аснове. Самавучыцель, выдадзены імі, утрымлівае варыянт такога спецыяльнага, толькі беларускага алфавіту, заснаванага на знаках лацінскага алфавіту, прыстасаваных да фанетычных уласцівасцяў беларускай мовы. Знікаюць вялікія і падвойныя літары. Дасягнуты амаль ідэальны стан, - кожны з 45 асноўных гукаў беларускай мовы атрымлівае свой пісьмовы адпаведнік. Намаганні Абіхта і Станкевіча прынеслі даволі цікавыя вынікі: сумясціліся досвед і веды, класічнага філолага, арабіста і славіста, і, беларуса, носьбіта жывой мовы. На жаль, праект не знайшоў шырокага практычнага ўжывання.

Займаўся таксама Абіхт папулярызацыяй ведаў пра Беларусь у Нямеччыне. У газеце "Der Beobachter" быў надрукаваны цыкл яго артыкула пад загалоўкам "Аб мінулай і сучаснай гісторыі беларусаў" (5-29 верасня 1918 г.) Аўтар адстойвае правы беларусаў на самавызначэнне. Пры ўдзеле Абіхта ў 1919 годзе ў Берліне была выдадзена агульная праца пад рэдакцыяй Вальтэра Ёнгера "Weissruthenien", багата ілюстраваная здымкамі помнікаў старабеларускага пісьменства, архітэктуры Вільні, Віленшчыны, іншых рэгіёнаў Беларусі. Ужо сам тытул кніжкі паказвае імкненне нямецкіх даследчыкаў разглядаць край і народ беларускі як з'яву асобную, самаісную. Рудольф Абіхт быў аўтарам найбольш цікавых раздзелаў вышэйназванай кнігі, прысвечаных літаратурна-фальклёрнай тэматыцы. Абіхт падкрэслівае стараданасць беларускага пісьменства, адзначае ролю сучасных беларускіх пісьменнікаў: Якуба Коласа і Янкі Купалы. У раздзелах кнігі, напісаных Абіхтам, акрамя старанна адабраных і перакладзеных ім разам з Эльзай Ваэцман вершаў Купалы, змешчаны некалькі беларускіх народных песен, верш Яна Баршчэўскага, некалькі беларускіх ананімных твораў. У раздзеле народнай прозы Абіхт размяшчае ўласна перакладзеныя беларускія народныя легенды і апавяданні. Выказваючы падзяку Абіхту, галоўны рэдактар Вальтэр Ёгер напісаў: "Дзякуючы Рудольфу Абіхту ў Германіі былі праведзены такія беларусазнаўчыя даследванні, якіх яшчэ не ведала нямецкая навука".

На гэтым спіс беларусазнаўчых прац Абіхта заканчваецца. Спрабаваў ён таксама пісаць "Нарысы гісторыі беларускай літаратуры", аднак захаваўся толькі адзін урывак, прысвечаны пачаткам літаратурна-грамадскага руху 1905-1907 гадоў.

Безумоўна, сучасная нямецкая беларусістыка зрабіла значны крок наперад, аднак гэта не памяншае, а наадварот, павялічвае значэнне аднаго з яе пачынальнікаў. Працы Рудольфа Абіхта не менш, а можа больш патрэбны самім беларусам, бо адкрывалі свету невядомы дагэтуль кавалачак Еўропы, які завецца такім ласкавым словам Беларусь.

Памёр Рудольф Абіхт 12 лютага 1921 года ў Германіі, дзе да апошніх дзён займаўся навуковай і выкладчыцкай працай.

*Матэрыял сабраў і апрацаваў Віталь Макарэвіч.*

# ...Толькі нашай роднай, беларускай мовай можна выразіць Беларусь

... Я шмат разважала на тэму беларускае мовы, яе месца ў нашым грамадстве, і ўрэшце рэшт прышла да высновы, якая будзе, я спадзяюся, цікавай многім. На самой справе, у галіне дыскусій на конт беларускай мовы ў беларускіх газетах, на тэлебачанні назіраецца супрацьстаянне двух апазіцыйных бакоў: у адных "крыніцах інфармацыі" гэтая тэма "топіцца". У сапраўдных, нацыянальна свядомых газетах і часопісах – наадварот, разглядаецца з усіх магчымых бакоў. Гэтая дыскусія, часам адкрытая барацьба, цягнецца ўжо даволі доўга, але, мне здаецца, мала хто бачыць такі бяспрэчны аргумент у доказ неабходнасці існавання беларускай мовы, які вынікае з любых назіранняў у межах нашай Радзімы: **толькі нашай роднай, беларускай мовай можна выразіць Беларусь.** І адным гэтым сказам агаворана ўсё.

Як можна выразіць усё, што бачым, ідучы па Менскай вуліцы ўранку, французскай, рускай ці ангельскай мовай?

**Шаша...** Толькі прамовіш гэтае слова і бачым адразу, як маленькія каменчыкі шалясцяць, падскокваючы пад коламі аўтамабіляў, як гэтыя колы з пяшчотай нейкім, толькі ім вядомым, шэптам размаўляюць з шашой, шаргацяць па ёй, уздымаючы ранішні пыл... Ціхенькі ветрык налятае на дрэвы, цурчыць сваім гукам, павявае халадком, зрывае з дрэў празрыстае жоўтае **лісце**. Ні ў якім разе ніхочацца казаць: **"yeuow leaf"**, з вуснаў само сабой вылятае гэта мяккае слова **"лісце".** Лісце танцуе ў паветры, кружыцца, а потым падае на зямлю, ласкава трэцца аб пажоўклую траву і гарадскі асфальт, нібыта просячы літасці і сумна, але страшнае слова "смерць" таксама па гучанню вельмі падыходзіць да гэтага выпадку.

А ці можна выразіць нейкай іншай мовай ранішнюю раку, што велічна цячэ сярод жорсткай, але прыцягальнай цывілізацыі? Ціхая і спакойная, зменлівая і жывая, сапраўды быццам мармуровая і ў той жа час аксамітная (парадаксальна!), вада гэтай вечнай ракі – сімвал нашай традыцыі і веры, які з часам нібыта паціху гіне, задушаны намі, але на самой справе проста чакае таго часу, калі да нас вернецца разум... І ўжо зусім беларускі той празрысты туман-павуцінка, што вісне над ракой, над дрэвамі, што ахінае цябе і не дае саступіць з той бясконцай алеі...

Усё гэта – нашае, беларускае, і называецца можа толькі беларускімі словамі, тымі, што даў наш Бог, каб мы маглі назваць уголас усё гэтае хараство.

*Галаўніцкая Вольга, студэнтка.*

# Літаратурная старонка "Нашага слова"

Вольга Каваленка

## ...Я найшчырэйшай на мове сваёй з вамі бываю

*Вольга Каваленка нарадзілася ў пасёлку Рабкор Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Менскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум і Менскі педагагічны інстытут. Жыве ў Менску. Працуе майстрам вытворчага навучання. Сваім выхаванцам яна адкрывае не толькі прафесійныя сакрэты, але і захапляльны свет турысцка-краязнаўчых падарожжаў і спаборніцтваў. А яшчэ выхоўвае ў іх шчырую зацікаўленасць паэзіяй. Друкавалася ў зборніку "Ранний рассвет" (Масква), альманаху "Истоки" (Масква), часопісах "Рабочая смена" (Менск), "Падарожнік" (Менск), газетах "Вячэрні Менск", "Чырвоная змена", "Знамя юности", "Настаўніцкая газета", "На стройках Минска". Вершы гучалі на Беларускім маладзёжным радыё і на радыёстанцыі "Сталіца".*



Я найшчырэйшай на мове сваёй
З вамі бываю.
Іншы раз вершы складаю на ёй –
Сэрцам спяваю.
Пішу, як адказную справу раблю, -
Інакш я і права не маю.
Нават, дзе трэба сказаць: "Я люблю", -
Шапчу: "Я кахаю".
*Сакавік 1980.*

### НАВЕЯННЕ КАНЦЭРТАМ БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІІ

Запоўніла душу родная мова,
Звінела рачулкай і грукала громам,
Гукала ў дарогу і міру прасіла,
Аб кожным чацвёртым ізноў галасіла.
Смяялася звонка, нашэптвала казку,
Не раз паўтарала сваё "калі ласка".
Каб спець пра Радзіму на поўную сілу,
Цымбалы ў пару да сябе запрасіла.
І рукі, бы лебедзі ўранку, ўзляталі.
І пелі цымбалы, у неба гукалі.
А там, у нябёсах, дзе холад касмічны,
Адчулі, што маці-зямелька іх кліча.
У клубе і ў полі, у далёкім сузор'і
На мове народнай з табой пагаворыць
Ласкава, даступна. І ці ж гэта дзіва,
Што кожны адчуе – гаворыць Радзіма?
*Ліпень 1981.*

* * *

Ні з якою другою не зблытаю
Балаціну, што лашчыла слых
Жураўліным вясеннім курлыканнем,
Клякатаннем шчаслівых бусліх.
І чаромху, бялютка пабеленую,
Што мяне чаравала заўжды.
І зязюлю, чаромхай захмеленую,
Што бясконца лічыла гады.
Ні з якою, хай самаю дзіўнаю,
Я не зблытаю мову сваю,
Бо яна парадніла з Радзімаю,
Бо на ёй сваю песню пяю.
*Люты 1982.*

* * *

Прабач мяне, мова маёй бабулі,
Прабач за кароткую памяць.
Надта ж даўно мы не чулі,
Як баюны нам баяць,
Як загаворваюць страхі,
Як хваравітых лечаць,
... Як на Купалу над дахам,
Што Папараць, свеціць месяц.
І толькі ў далёкіх вандроўках
Па блізкім цяпер замежжы
Пра Яся, пра Бандароўну
Чытала сябрам няспешна.
А як жа, бывала, балюча
Калолі ўчынкі і словы!
Была ж ты вадою гаючай.
Ласкавая, родная мова.
Шыкоўныя, дзіўныя словы!
Усцішуся, вырасту ў іх.
Прабач нас, бабуліна мова,
І мова нашчадкаў маіх.
*Травень 1993.*

* * *

Мая прасцецкая душа, даверлівая,
З дзяцінства ў праўду Ільіча паверыла...
І піянеры, і камсамол нібы не шкодзілі
І да глыбінь маёй душы шляхі знаходзілі.
Каран і Біблія таму ж людзей вучылі...
І дзесяць ісцін на ўвесь свет мы налічылі...
А потым – гром перабудоў
і смерць Саюзу...
І ўсхвалявалася душа, штурхнула музу...
А той, вядома, як са сну, штось падалося
І асарці з братэрскіх моў так палілося,
Што продкі мо з сямі кален з
зямлі ўзняліся б...
Ды, як анёлы, жаўрукі зноў узвіліся!
*Сакавік 1995.*

### ДЫЯЛОГ З АНЁЛАМ

-- Пад Новы год
Памаліся за свой народ...
-- Мяне не вучылі... -
-- Колькі вас? І ці ёсць прыплод?
-- Мы страты яшчэ не лічылі...
-- Чым, гаротныя, памагчы,
Хлебам? Грашыма? Уменнем?...
-- Не. Калі можаш, то ўключы
Самапаразуменне! -
*Студзень 1997.*

* * *

Так лёгка было, так проста,
Усюды, што ў родным доме...
А дома гібела вёска...
А дома нямела вёска!!!
У вёскі не стала мовы,
У мовы не стала дома...
Здавалася – ўсюды, як дома,
А выйшла – пярына з саломы...
У мовы не стала дома –
У Радзімы не стала мовы!
Няхай мы – сініцы кволыя –
За жоравам не праб'емся...
Ды ў сцюжу, у лядовых аковах,
Радзіму сагрэць застаемся!
*Жнівень 1997.*

* * *

Учора, ледзве жывыя, вярнуліся гусі...
Дзіўна, нехта яшчэ вяртаецца да Беларусі!
Чаму ўсё-ткі аднойчы назвалі Белаю?
Мо за чысціню дзявочую, за долю смелую?
Можа за плёсы белыя, палотны росныя,
Ды за гуслярскія гуды напеўныя,
кіі дарожныя...
А мо ты Белаю таму завешся,
Што быццам верыш і быццам верыш,
ды не здаешся?
Можа ў маёй Рудабелцы, ці ў Карпілаўцы,
І сёння яшчэ пражывае Ярылы карміліца...
Аб веры і выхаванні душою б'юся
І ў другараз прарастаю на Беларусі!
*Сакавік 1995.*

### ЦЫМБАЛЫ

Адкрый толькі сэрца, і гукі –
Самі пальюцца ў кроў.
Узлятаюць над струнамі рукі,
І ты нібы ў казцы ізноў.
Натхнёна спяваюць цымбалы,
А я – бусляня над зямлёй.
І цэлага свету мне мала
Без роднай буслянкі маёй.
*Красавік 1980.*

### САРАКІ
**(паганскае веснавое свята)**

На саракі сорак пруткоў да гнязда
Трэба прынесці сарокам.
І сарака жаўрукам
з дальніх далёкаў вярнуцца...
Пэўна ж і мне нешта трэба зрабіць...
Можа сорак разоў азірнуцца?
*Сакавік 1995.*

* * *

Мае гоні – вершы мае –
Узару, з цёплай жменькі засею
Тым, што доўга ў сабе берагла.
Хай расце і цяпло, і дабро,
І гасціннасць, і добразычлівасць,
Прыгажосць і разумны гонар,
І адказнасць,
І спагада, і шчырасць да працы,
І той трапяткі
І шчымлівы званочак душы,
Што завецца –любоў да Радзімы.
*Красавік 1999.*

### РОДНАЯ ПЕСНЯ

Сёння не ў канцэртнай зале,
На пыльнай вуліцы вясковай
Мне да песні тэму падказалі
З поля ідучы каровы.
Ведаю, ні Скрыпа, ні Каруза,
Ні другі вялікі не спяе,
Як пяюць у нас, на Беларусі,
Вечарам дзяўчаты на сяле.
Песні ў полі і на сенажаці,
А як пяюць застольныя ў нас
На той мове, што Радзіма-маці
Адкавала ў старажытны час.
Чуеш, галасок выводзіць
"Як у лузе каліна стаяла..."
Песня нараджалася ў народзе,
Сілы набірала і ўзлятала.
"Касіў Ясь канюшыну..."
Песня ўзлятае другая,
І сінявокі хлапчына
На сяброўку сваю паглядае.
Колькі песень цудоўных народных,
Ды ў кожнай матывы свае.
У песнях старонка родная,
У песнях жыццё яе.
*Жнівень 1974.*

А.Шпакоўскі

### Забудоўваю храм

Забудоўваю храм,
Што не ведаў мой дзед,
Мне прыйшла нездарма
Думка новая усьлед,

Хай пацее душа
Хай выносіць сьлязу
Хай шукае абшар
Хай сумненьні грызуць.

У давільні, у агні,
У адчаі, у зьле,
Гэты край мне зьмяніць,
Гэты край ацалець.

Забудоўваю храм
Муляр я, ці масон,
Мне наперадзе там -
Толькі храм, толькі ён.

Сам, сваёю рукою
Зраблю скольki змагу
І пампу ў неспакоі
З думкай аб працягу.

Прыйдзе новы храбрэц,
Каб адказнасьць узняць,
Быць за добрых дабрэй,
Сетку словаў вязаць.

Забудова сьвядомая,
Строгі праект,
Толькі сьвет незнаёмы,
Як касьмічны аб'ект

Толькі б строгі Заказчык
Давер не згубіў,
Трэба мне наусьцяж бачыць,
Трэба ўсюды мне быць.

Не губляць больш, нанізваць
Імгненьні ў каралі,
Праяўляць ды асвойваць
Адчайныя далі,

Без аглядкі, без позы
І без няўдачы
У Беларускай Дарозе
Дбаць, дзе што толькі бачна.

Храм высокі, суровы,
Адусюль дасягальны,
Быццам родная мова,
Быццам подых крыштальны.

Забудоўваю ў згодзе,
У тайнай змове з усімі
Аб прыгожым народзе,
Аб адроджанай сіле...

І адказ свой рыхтую
Тонкай д'ябальскай ціне --
Цераз хвалю сьвятую
Не дасягці Радзімы.

Юрась Півуноў

Мова мая...
Нібы гнаная ледзі
Ў замку,
Дзе подых далёкіх вякоў,
Просіць у Бога
Шчасьця народу,
А нацыі нашай
З руінаў паўстаць,
З духоўнага рэзруху,
Ў які цягам стагодзьдзяў
Укінулі Край Беларускі вікы
З Усходу і Захаду,
Поўначы й Поўдню –
Давесьці хацелі:
"Беларусаў няма!"
Мы ёсьць!
Мы былі!
Мы ня зьнікнем ніколі! –
Як бы таго хтосьці зь іх не хацеў.
А моцы ў змаганьні
Нам дасьць сіла духу,
Прыгожасьць нашай мовы,
Краіны прасьцяг...

# Белпошта. Свой шлях да беларускасці

На пачатку года ў Менску на Галоўным паштамце адкрылася выстава "Дзяржаўныя знакі паштовай аплаты РБ", якая знаёміла наведальнікаў з выпушчанымі ў 1999 годзе маркамі і філатэлічнай прадукцыяй.

На невялікіх двух вітрынах, што месціліся ля ўваходу, можна было ўбачыць маркі, канверты (розных тыпаў і колераў), таксама пазнаёміцца з запланаванымі на 2000 год узорамі марак. Вельмі здзіўляў і уражываў канешне ж сам факт існавання такога кшталту выставы, але і тое, што адначасова з экспанаваннем праводзілася анкетаванне, якое, у сваю чаргу, прыцягне ўвагу і дазволіць задзейнічаць шырокае кола людзей, сярод якіх будуць не толькі прафесіяналы-філатэлісты, але і звычайныя аматары-навічкі і, нават, зусім пабочныя асобы.

Менавіта тут, стоячы ля выставачных вітрын сярод тлуму і дынамічнага жыцця мільённага гораду, пачынаеш разумець, як у будзёнай мітусні, у хуткім безе часу, у клопаце не заўважаеш таго канверта, у якім дасылаеш свой ліст, не кажучы ўжо аб невялічкай марцы. Добра яшчэ, што ліст напісаў, а не пагаманіў, як звычайна, па тэлефоне. Цылівізацыя!

Вось так непрыкметна і губляем мы здольнасць, ці і магчымасць, заўважаць вакол себе прыгожае. Менавіта прыгожае, бо ці варта спрачацца наконт таго, што марка гэта сапраўды твор мастацтва ў мініяцюры, які здольны перадаць подых часу, засяродзіць увагу на агульначалавечых каштоўнасцях, быць летапісам чалавечых спраў. Юбілеі выдатных асоб, дасягненні ў навукова-тэхнічнай сферы, сіла экалогіі і шмат іншага – усё знаходзіць адлюстраванне на марках.

Таму, дзякуючы арганізатарам выставы, на невялічкіх зубчастых кавалачках паперы мы маглі бачыць, чым жыла ў 1999 годзе наша краіна і яе грамадзяне.

Святкавала юбілей, у тым ліку і 100-годдзе з дня нараджэння С. А. Ваўпшасава і А.І.Ржэцкай, 125-годдзе Сусветнага паштамтавага саюза; дбала аб эканамічным стане, што знайшло адлюстраванне на паштоўках і марках з выявамі гярбоў, серыі марак з фігурамі жывёл прысвечанай Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку. Імкнучыся зберагчы і расказаць, як мага большай колькасці людзей аб цудоўнай архітэктурнай спадчыне Бацькаўшчыны, што знайшло сваё ўвасабленне ў блоку марак "Драўлянае дойлідства Беларусі".

Але вось што па-сапраўднаму выклікала эмацыянальнае задавальненне – гэта маркі і канверты аб'яднаныя пад назвай "Малююць дзеці Беларусі", дзе па-дзіцячаму наіўна намаляваныя чалавечкі, сонейка, кветкі, насылаюць нейкую незвычайную, жыццесцвярджальную энергетыку, якая саграе шчырасцю дзіцячых пачуццяў іх чысцінёй, весялосцю, бясклопатнасцю. І каляровая гама надае ўсяму гэтаму больш яркае і моцнае гучанне.

І яшчэ трэба адзначыць, што практычна ўсе экпанаты выставы выканаы на беларускай мове.

Пасля адкрыцця выставы прайшло паўгода. За гэты час "Белпошта ажыццявіла яшчэ шэраг выданняў. Некаторыя з іх мы можам сёння рэпразантаваць і пры гэтым адзначыць, што беларускамоўныя канверты і маркі з'яўляюцца абавязковым атрыбутам беларускай дзяржавы. Гэта, калі хочаце, твар дзяржавы. І цудоўна, што кіраўніцтва "Белпошты" гэта разумее ў адрозненне ад Міністэрства фінансаў, якое нумаруе беларускія грошы расейскімі літарамі, пра што ўжо пісала "Наша слова". Мы спадзяёмся на стабільнасць сітуацыі з беларускай мовай у гэтым куточку нашага жыцця.

**Вольга Аблам, студэнтка БУК.**



*Гадзіннік на будынку Галоўпаштамта ў Менску добра ведаюць і госці і карэнныя менчане. Тут прызначаюцца спатканні і дзелавыя сустрэчы, а многія звяраюць свае гадзіннікі або даведваюцца пра дакладны час розных часавых паясоў свету. Вось ужо дваццаць гадоў за дакладнасцю ходу галоўнага менскага гадзінніка назірае майстар гадзіннікавай справы Анатоль Мікалаевіч Старавойт.*

***На здымку:** ля галоўнага менскага гадзіннік Анатоль Мікалаевіч Старавойт (справа) і інжынер па абсталяванню Аляксандр Мікалаевіч Кабецкі. **Усе надпісы на гадзінніку выканаы на беларускай мове.***

***Фота Аляксея Мацюшкова, БелТА.***




*23 лютага рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта" ўвяло ў паштовае абарачэнне серыю з трох марак і блок, прысвечаны самалётам Паўла Сухога. Ураджэнец вёскі Глыбокае Гомельскай вобласці, наш славуты зямляк, Павел Восіпавіч Сухі -- канструктар самалётаў АНТ-25, баявога самалёта СУ-2, рэактыўных знішчальнікаў СУ-7, СУ-15, СУ-17 і многіх іншых рэактыўных самалётаў. У яго бюро сканструяваны франтавы штурмавік СУ-24 і лепшы ў свеце знішчальнік СУ-27.*

***На здымку:** блок марак "Самалёты П. Сухога" і купон з партрэтам славутага авіяканструктара. **Мова выканання -- беларуская.***

***Фота Генадзя Сямёнава, БелТА.***



*Маркаваны канверт да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі*



*Маркаваны канверт да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага спевака Міхала Забэйды-Суміцкага*



*Маркаваны канверт да 225-годдзя Гарадзенскай медычнай акадэміі*



*Маркаваны канверт да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага мастака Пётры Сергіевіча*



*Немаркаваны канверт, выдадзены "Белпоштай" да 160-годдзя вялікага беларускага паэта Францішка Багушэвіча*

